© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 23 29 верасня - 5 кастрычніка 1995 года ЦАНА 500 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Тры месяцы шукалі чалавека А знайшлі недалёка ад хаты... Разрубленым на тры часткі.

*У ліпені мясцовая Смаргонская газета надрукавала інфармацыю аб розыску прапаўшага бяз вестак Іосіфа Шутовіча, 1931 года нараджэння, які пражываў у вёсцы Падзялёнае Каранёўскага сельскага Савета.*

І вось нядаўна, у разгар грыбнога сезона аматары "ціхага палявання" знайшлі яго цела, разрубленае на тры часткі і загорнутае ў цалафанавы мяшок. Гэты скрутак ляжаў на ўзлеску ў 200 метрах ад дома, дзе апошнія пяць год пражываў І. Шутовіч з жонкай.

Вельмі загадкавае забойства. Як стала вядома, І. Шутовіч працаваў раней на заводзе "Смаргоньсілікатбетон", хварэў ракам лёгкіх, лячыўся ў бальніцы.

Пракуратурай узбуджана крымінальная справа і распачата следства. Адшукваюцца сведкі, якія што-небудзь чулі ці ведаюць пра гэтае забойства.

*Тэрэза КУМІШЧА*

## "А фінансы... хай спяваюць рамансы"

**МАЛАДЗЕЧНА.** *Чарговая сесія мясцовага гарсавета, якая павінна адбыцца 27 верасня, перанесена на 11 кастрычніка з-за адсутнасці кворуму.*

Відаць, хутчэй за ўсё народных выбраннікаў мінулага склікання мала хвалююць праблемы выбаршчыкаў, ці яны ўжо, беручы прыклад з некаторых сваіх калег з Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, сталі лічыць сябе "нелегітымнымі" (ох, як ужо навяз у зубах гэты неалагізм). Але, як бы там ні было, моладзь засталася "са сваімі інтарэсамі" (першым пытаннем парадку дня сесіі павінен быў быць разгляд маладзёжнай палітыкі ў горадзе), гараджане хай думаюць пра зіму самі (бо ход падрыхтоўкі гарадской камунальнай гаспадаркі да ацяпляльнага сезона таксама не разгледжаны), а фінансы (трэцяе пытанне) – гл. загаловак.

Сёй-той з дэпутатаў адназначна сумняваўся ў наяўнасці кворуму і прапанаваў зрабіць, як гэта было ў свой час у ВС РБ, "развітальную чарку". А што? Мо, варта гэту ідэю ажыццявіць 11 кастрычніка. Тады, спадзяюся, і кворум будзе.

*Рыгор СЯМЁНАЎ*

## Сіндром вайны,

### або Страсці па ўласных пагонах

*Як і ўсё на нашай Радзіме, інцыдэнт з амерыканскімі паветраплавальнікамі практычна забыты... Відавочна залішняй таму падалася нядаўняя публікацыя ў "Свободных новостях-плюс" Васіля Зданюка. Палкоўніка. Некалькі цытат з яе і невялікі каменарый.*

Аўтар згаданай публікацыі перадае працэс мыслення генерала, які прымаў рашэнне аб збіцці "аб'екта".

**"... А вось калі шар абсталяваны падвескаю, тут трэба глядзець у абодва. У кантэйнеры можа быць змешчана спецыяльная апаратура, а могуць і людзі знаходзіцца..."**

Аказваецца, паветраны шар, на думку ваеннага (!), уяўляе вялікую небяспеку. Куды там спадарожнікам ды астатняму. А калі яшчэ людзі там знаходзяцца, то... немагчыма ўявіць усю шкоду для краіны.

**"Чаму ён аказаўся над тэрыторыяй, нашпігаванай войскамі! Бо менавіта ў гэтых месцах размешчаны ваенныя аэрадромы, ракетныя войскі проціпаветранай абароны, важны стратэгічны аб'ект..."**

Я б паставіў пытанне генерала крыху інакш: чаму на тэрыторыі нашай невялікай краіны, якая да таго ж абвясціла нейтралітэт, столькі войска, стратэгічны аб'ект?!

**" Амаль дваццаць год пішу я пра авіяцыю. Добра знаёмы не толькі з яе праблемамі, але і з самімі лётчыкамі, псіхалогіяй іх паводзінаў у паветры і на зямлі. Таму магу сцвярджаць: заўваж хто з экіпажа дзяжурнага верталёта нават ускосныя прыкметы прысутнасці пілотаў у падвесцы, ніводнай чаргі ў бок паветранага шара не паследвала б, нягледзячы на катэгарычны загад. Па людзях, няхай гэта і парушальнікі паветранай прасторы, страляць не будуць."**

Трэба быць суперцынікам, каб напісаць падобнае. Маўляў, ваенны адмовіцца выконваць загад, каб толькі чалавека не забіць. Паказальная ў гэтым сэнсе наступная цытата:

**"Дык калі б хаця маленькі намёк, што там быў экіпаж,- уздыхае афіцэр.- Хіба мы фашысты якія па жывых людзях страляць!"**

Застаецца верыць, што армія толькі для таго і існуе, каб па мішэнях ды нябожчыках страляць. Аўтар жа спадзяецца на іншае:

**"Застаецца спадзявацца, што спраўдзіцца версія спецыялістаў, згодна з якой экіпаж паветранага шара ў момант атакі верталётам знаходзіўся ў непрытомным стане..."**

Галоўнае, відаць, не жыцці чалавечыя, а апраўданне гэтай бессэнсоўнай крыві.

**"Мог і яшчэ павісець** (шар – рэд.) **да высвення ўсіх абставінаў".**

Правільна аўтар піша. Але ў наступным жа абзацы чытаем:

**"Аднак гэта толькі меркаванне. Бо, з іншага боку, калі б здарылася затрымка, як у сітуацыі з Рустам, і паляцелі б генеральскія ды палкоўнічыя папахі."**

Некалькі папах супраць жыцця двух чалавек. Вар'яцтва нейкае.

**"Напэўна, самой Беларусі такая магутная армія і не патрэбная. Але з сакавіка гэтага года яна ўваходзіць у Аб'яднаную сістэму проціпаветранай абароны краін СНД. Значыць, паранейшым нашы ракетчыкі ў адказе за мірнае неба Масквы. Вось толькі сама златаглавая пра гэта амаль не памятае. Запчасткі да радыётэхнікі і зенітна-ракетных комплексаў прадае нам па тых жа цэнах, што і арабскім шэйхам. За вучобу ў акадэміі Генеральнага штаба дзярэ ледзьве не па тысячы даляраў у месяц."**

Сказана гранічна шчыра. Будзь, Беларусь, і надалей заложніцай Масквы. Не спадабаецца дзе расійская палітыка – адкажа за ўсё Беларусь, пярэдні рубеж расійскай абароны. Ізноў кожны чацверты?!

**"... Трагічнае непаразуменне ў небе пад Бярозай супала з некаторым абвастрэннем у адносінах паміж Расіяй і Захадам. Рэха балканскага канфлікта пагражае дакаціцца і да Беларусі. Супрацьстаянне ў Еўропе, на якое пачалі паціху забывацца, узмацняецца з кожным днём. І не дай Бог, каб прыйшоў час, калі наша зямля зноў стане пярэднім краем гэтага супрацьборства."**

Расія зноў пачынае праводзіць палітыку на супрацьстаянне (Еўропа тым часам аб'ядноўваецца!), а Беларусь сама просіцца на "гарматнае мяса".

На заканчэнне бравы генерал выказвае ўпэўненасць:

**"– Не паляцяць** (крылатыя ракеты – рэд.). **У нас ёсць каму і ёсць чым іх спыніць".**

На нашу зямлю ракеты, вядома, не паляцяць. Затое мы іх усё адно спынім. Ёсць чым – цэлай краінай.

Наіўна спадзявацца, што ваенны паставіць вышэй клопат пра дабрабыт, наогул існаванне краіны вышэй за непакой аб скарачэнні арміі.

*Яўген РАДЗЕЦКІ*

## "Шкада, што на тэатр звяртаюць увагу толькі тады, калі нешта здарыцца"

*Прыкладна так адрэагавалі ў Мінскім абласным драматычным тэатры на шматлікія публікацыі аб вядомай трагедыі.*

На думку калектыву, смерць артыста – недарэчны выпадак, а некаторыя цэнтральныя газеты падалі гэта так, нібы ў тэатры толькі робяць, што п'юць ды гуляюць.

Успомнім, што ў свой час права "прытуліць" абласны тэатр аспрэчвалі Барысаў, Слуцк, іншыя гарады Міншчыны. Хутка пяць год, як ён дзейнічае ў Маладзечне. За гэты час пастаўлена больш за трыццаць спектакляў, зроблена зала, устаноўлены пульт, святло і іншае практычна еўрапейскага ўзроўню.

Разам з тым артысты не маюць жылля, але маюць заробкі 400 тысяч рублёў. У месяц.

Дырэктар тэатра С. Вальковіч згадзіўся расказаць аб здабытках і праблемах установы на старонках "Рэгіянальнай газеты". Спадзяёмся, публікацыя з'явіцца ў самы бліжэйшы час.

## Зубр стаў налібоцкім

*Летась у Валожынскім лясгасе сустракалі перасяленцаў.- 15 белавежскіх зуброў пачалі абжываць новыя для іх землі Налібоцкай пушчы. Навасёлы добра прыжыліся, і нават, калі іх выпусцілі з вальераў на волю, адчувалі сябе прывольна, але не праяўлялі агрэсіі ў адносінах да людзей.*

У першы год статак павялічыўся на пяцёра зубранят, сёлета на свет з'явіліся яшчэ трое маленькіх звяроў.

Але статак налічвае цяпер усяго 19 асобін. На жаль, зубры не толькі нараджаюцца, але і гінуць. Адзін лясны волат стаў спакусай для браканьераў. Асобы іх да гэтага часу не выяўлены. Некалькі звяроў загінулі ад інфекцыйных хвароб. А вось адзін самец падаўся ў... эміграцыю. Яго шлях удалося прасачыць да суседняй Літвы. Кажуць, што там у лясах ля Панявежыса таксама пражываюць зубры.

*Наталля ШТЭЙНЕР*

## Івянецкія кандытары запрошаны ў Рыя-дэ-Жанейра

Ліст з-за мяжы атрымала дырэкцыя Івянецкай кандытарскай фабрыкі, якая ў жніўні з народнага прадпрыемства ператтворана ў адкрытае акцыянернае таварыства. У пісьме ёсць такія радкі: " Ваша кампанія пасля папярэдняй працэдуры адбору прадстаўлена да аўтарытэтнай міжнароднай узнагароды "Факел Бірмінгама" – за паспяховае эканамічнае выжыванне і развіццё ў цяжкіх умовах рынычных адносін... і ўключана ў канчатковы спіс кандыдатур для атрымання гэтай узнагароды".

Так, у адрозненне ад іншых, гэты калектыў сёння цвёрда стаіць на нагах. У канцы мінулага года на фабрыцы ўведзены ў строй новы сучасны карамельны цэх, дзе будзе работа мінімум для 150 жанчын пасёлка. Прадпрыемства выступіла заказчыкам будаўніцтва ў пасёлку ачышчальных збудаванняў, узваліўшы такім чынам цяжкую ва ўсіх адносінах ношу. Будаўніцтва збудаванняў падыходзіць да завяршэння.

Дарэчы, івянецкія кандытары запрошаны прыняць удзел у цырымоніі ўзнагароджвання ў Рыя-дэ-Жанейра.

*Наталля ШТЭЙНЕР*

## Захоўвайце грошы ў Ашчадбанку. Толькі новым.

**АСТРАВЕЦ.** *Акрамя будаўніцтва новага ўнівермага, адміністрацыйнага будынка РАУС, інфекцыйнага аддзялення бальніцы, яшчэ адной новабудоўляй ў Астраўцы стала больш.*

Амаль у цэнтры пасёлка будаўнікі мясцовай МПМК-158 пачалі ўзводзіць па індывідуальным праекце трохпавярховы, агульнай плошчай 1900 квадратных метраў і коштам па сённяшніх цэнах амаль 6 мільярдаў рублёў, будынак раённага аддзялення Ашчадбанка. Такая патрэба ўзнікла ўжо даўно, бо цяперашнія ўмовы – цесната ў кабінетах, малая зала для аперацый, не прыдаюць гонару і прэстыжу для банка і зручнасцей кліентам. У новым, а здача яго ў эксплуатацыю плануецца ў наступным годзе, прадугледжана некалькі аперацыйных залаў як для радавых заказчыкаў, так і для юрыдычных асоб – прадпрыемстваў, арганізацый і фірм.

Застаецца спадзявацца, што ў адрозненне ад сваіх калег-будоўляў, банк не ператворыцца ў даўгабуд, бо заказчыкам аб'екта з'яўляецца абласное аддзяленне Ашчадбанка. Яно, дарэчы, да гэтага часу не рабіла затрымак з фінансаваннем.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ*

ФОРТУНА-В
ЦТН
Тэл. (01773) 6-42-68

ЦЭНТР ГАНДЛЮ НЕРУХОМАСЦЮ
"ФАРТУНА-В"
- Купля-продаж нерухомасці
- Абмен з даплатай
- Продаж кватэр па безнаяўнаму разліку
- Хуткае афармленне
- Бясплатна ўносім у банк даных
- Здача кватэр у арэнду

Маладзечна, вул. Б.Хмяльніцкага, 10

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



# Новае пакаленне выбірае...

***Калісьці мы ганарыліся тым, што з'яўляемся самай чытаючай краінай у свеце, што ў нас шматмільённыя тыражы кніг, газет і часопісаў. Памятаем самы сапраўдны кніжна-газетна-часопісны бум дзесяцігадовай даўнасці, калі за новымі кнігамі, "таўстымі" часопісамі і свежымі газетамі літаральна выстройваліся чэргі. Як грыбы пасля дажджу раслі кніжныя кіёскі ад дзяржаўных магазінаў і прыватныя...***

А сёння? Сёння - час мяняць шыльды. Бо ў кіёсках пад гучнай і ганаровай назвай "Кнігі" прадаецца ўсё: ад імпартовых шакаладак, жвачак і сокаў да цыгарэт, кітайскай або польскай тушонкі, калготак і прэзерватываў. Як калісьці ў старой сельскай краме. Толькі кнігамі тут "не пахне".

А там, дзе яшчэ можна знайсці друкаваную прадукцыю (так, бо інакш, як прадукцыяй гэты шырспажыў з секса, насілля і безгустоўнасці назваць цяжка), сталы, стэлажы і паліцы ўсё часцей пачынаюць адчуваць сябе нейкім падчаркамі, метр за метрам, крок за крокам саступаючы сваю "жыццёвую прастору" ці то банку, ці то камерцыйнай структуры. Кнігарні спакваля ператвараюцца ў музеі, куды зрэдзь часу заходзяць сапраўдныя знаўцы, "мастадонты" і "апошнія магікане" мінулай эпох. Новае пакаленне выбірае "пепсі"!..

***Валерый МАРКЕЛАЎ.***
***Фота Міхаіла Асаевіча.***




# Цэны – рэч цікавая

Асабліва, калі справа тычыцца аплаты камунальных паслугаў у розных гарадах рэгіёна. Набліжаецца, па ўсім відаць, чарговае іх павышэнне, таму дэталёвы аналіз інфармацыі пакінем на больш позні час, а сёння пагаворым крыху пра цэны адыходзячыя.

Такім чынам, квартплата па нашых гарадах практычна аднолькавая. Гэта б не было такім дзіўным, калі б так рэзка не адрозніваліся цэны на камунальныя паслугі.

Вось, да прыкладу, у залежнасці ад горада плата за халодную ваду вагаецца ад трохсот да 1800 рублёў ( на аднаго чалавека ў месяц). Цэны, дарэчы, мы крыху скругляем для лепшай арыентацыі чытача. Такая самая гісторыя з аплатай каналізацыі.

За гарачую ваду ў адным горадзе вам прыйшлося плаціць з розніцу 6,5 тысячы руб. на чалавека, у другім – 11,5 тыс, а ў Валожыне – нічога. Там не камунізм, там вады гарачай няма. Справядлівасці дзеля дададзім, што не толькі там яе няма.

І зноў жа аднолькавыя цэны на газ, радыё; за тэлеантэну мы плацілі 500, 840, 910 рублёў.

Калі паставіць тэлефон па чарзе таксама каштавала зноў жа прыкладна аднолькава, то камерцыйная ўстаноўка вагалася ад трох да 4,5 мільёна рублёў.

Свядома не прыводзім дадзеныя канкрэтна па гарадах,– зрабіць гэта лепей будзе крыху пазней, калі ўсталююцца новыя цэны (у прыходзе новага сумнявацца не даводзіцца). Чытач звярнуў увагу на разбежку цэнаў на некаторых пазіцыях. Патлумачыць гэта можна рознымі ўмовамі: геаграфічным становішчам, памерамі, станам камунальнай гаспадаркі, датацыямі бюджэту, вобласці ўрэшце розныя.

Тым болей запрашаем да размовы кіраўнікоў жыллёва-камунальных аб'яднанняў рэгіёна. Хто і як вызначае расцэнкі на камунальныя паслугі, ад чаго яны залежаць, ці атрымлівае іх спажывец у поўным аб'ёме (якая павінна быць тэмпература гарачай вады, батарэй ацяплення, што рабіць,калі радыё тыднямі маўчыць)?

# Гарадзілаўцы ў космас не лятаюць, але біфідумбактэрын п'юць

***Выраб універсальнага кісламалочнага прадукта – біфідумбактэрыну – асвоены ў калгасе "Гарадзілава", што на Маладзечаншчыне. Гэта выдатны лекавы, прафілактычны сродак пры розных захворваннях страўнікава-кішэчнага тракту, цукровым дыябеце, алергіях. Ён выводзіць з арганізма шкодныя рэчывы, у тым ліку і радыенукліды. Супрацьпаказанняў біфідумбактэрын не мае. Між іншым яшчэ некалькі год таму тэхналогія яго прыгатавання была засакрэчана: гэты кампанент уваходзіў у харчаванне касманаўтаў.***

Пасля таго, як гарадзілаўцы абсталявалі ў сябе цэх па вырабу гэтага прадукта, яго можа паспытаць кожны з вяскоўцаў. Гараджанам як пакуль купіць біфідумбактэрын больш складана, бо, як гэта ні парадаксальна, акрамя работнікаў дзіцячай паліклінікі і дзіцячага саду N33 не знайшлося ў горадзе асоб, зацікаўленых у продажы гарадзілаўскага кефіру. Хаця, па словах старшыні калгаса "Гарадзілава" А. Астрэйкі, многія з вядучых медыкаў горада былі на адкрыцці цэха, адобрылі гэту справу.

– У суткі мы можам выпускаць да 200 літраў біфідумбактэрыну, але пакуль попыт на яго зусім не вялікі,– гаворыць Чаславў Аляксандравіч.–Ёсць заказы з Мінска, літоўцы гатовы валютай за нашу прадукцыю плаціць. Але ж у першую чаргу мы разлічвалі на свайго, мясцовага спажыўца

Пакуль жа продаж эліксіра здароўя па папярэдніх заяўках арганізаваны ў рэгістратуры дзіцячай паліклінікі па аўторках. Цана памяркоўная: за паўлітровую бутэльку – сем з паловай тысяч.

***Анжаліка КРУПЯНЬКОВА***

# Што на ўпакоўцы?

***"Наш рынак багаты на тавары замежнай вытворчасці. На іхняй упакоўцы нанесены штрыхавы код. Ці праўда, што на ім пазначана краіна-вытворца?"***

***А. Булойчык. Мінск.***

Звычайна код складаецца з 13 лічбаў. Першыя дзве – краіна, дзе нарадзіўся тавар, наступныя пяць – прадпрыемства-вытворца, яшчэ пяць – найменне тавару, яго спажывецкія вартасці, памеры, маса, колер. І апошняя лічба – кантрольная.

Вось коды некаторых краін:

00-09 – ЗША і Канада
30-37 – Францыя
400-440 – Германія
460-469 – былы СССР
45, 49 – Японія
50 – Вялікабрытанія
54 – Бельгія і Люксембург
57 – Данія
590 – Польшча
599 – Венгрыя
690 – Кітай
729 – Ізраіль
80-83 – Італія
84 – Іспанія
869 – Турцыя
90-91 – Аўстрыя

Але і гэтыя лічбы можна праверыць. Напрыклад, код пачынаецца з лічбаў 30-37. Францыя? Праверым:

1. Складзіце лічбы, што стаяць на цотных месцах.
2. Атрыманую суму памножце на 3.
3. Складзіце лічбы, што стаяць на няцотных месцах, без апошняй (кантрольнай) лічбы.
4. Складзіце атрыманыя лічбы пунктаў 2 і 3 і адкіньце дзесяткі ( калі атрымалася лічба 47, адкідаем 4 (сорак), застаецца лічба 7).
5. Ад 10 адыміце атрыманую лчбу.

Калі пасля ўсіх падлікаў атрыманая лічба (пункт 5) супадае з кантрольнай лічбай, значыць усё ў парадку і вы купілі якасны тавар. Калі ж не – то якасць не гарантуецца, бо тавар выраблены незаконна.

# У калекцыі - сто лялек

***ВАЛОЖЫН. Ганна Ціхановіч жыве ў некалькіх вярстах ад гарпасёлка Івянец – у вёсцы Каралеўшчына. У бацькоўскай хаце, у сваім невялічкім пакойчыку яе паэтычная натура заснавала да волі незвычайнае каралеўства – каралеўства лялек.***

Каля сотні маўклівых, сімпатычных істот трапілі пад апеку сваёй Валадаркі. Тут правіць баль неўтаймоўнае захапленне. А пачало яе зацягваць у свой неадольны вір гэтае захапленне гадоў 15 таму, з таго часу, як сяброўкі-школьніцы падарылі на імяніны прывабную ляльку.

Кажуць, што захапленне – люстэрка душы. Калі яно і сапраўды так, то ў Ганніным люстэрку людзі бачаць толькі шчырасць і ласкавую далікатнасць. Карэньчыкі гэтых якасцей характару пачынаюцца з бацькоўскага выхавання. А яшчэ, бясцам з чыстых крыніц, п'е дзявочая душа дабрыню і высакародства з... казак. Менавіта гэтаму віду літаратуры ў дзіцячыя гады і цяпер аддавала і аддае перавагу Ганна Ціхановіч.

Разнастаіць захапленні і выстройвае іх у досыць трывалы і заканамерны ланцужок і наступнае яе кулінарнае пакланенне – Ганна любіць выпякаць торты.

Калекцыяніраванне лялек, чытанне казак, выпечка тортаў – усё гэта нагадвае своеасаблівую гармонію незласлівага, чулага характару трыццацігадовай жанчыны. Менавіта гэтыя якасці цэняць у Г. Ціхановіч знаёмыя, яе калегі. Застаецца толькі здзіўляцца, што Ганна, як натура летуценная і ўражлівая, некалі спыніла свой выбар на прафесіі бухгалтара.

***Ірына ПАШКЕВІЧ***

# Карціны экспануюцца ўпершыню. На выставе ў школьным фае

***Другі год у сапраўдны вернісаж ператвараецца фае Маладзечанскай агульнаадукацыйнай школы мастацтваў.***

У першыя дні новага навучальнага года тут была адкрыта выстава мясцовых мастакоў Міколы Аўчыннікава і Івана Смальякова. Яны прадставілі свае работы, створаныя за апошні год, якія, дарэчы, яшчэ нідзе не экспанаваліся. Сярод іх – графічныя творы з серый "Міфы старажытнай Грэцыі", "Віцебск", "Евангелісты" Смальякова, "Далёка ад нас", "Узаемапранікненне", партрэты сучаснікаў Аўчыннікава. Сімвалічна, што на працягу навучальнага года творы мэтраў заменяць работы іх юных выхаванцаў – вучняў класаў з мастацкім ухілам.

***Анжаліка КРУПЯНЬКОВА***

# Атакуюць... пранцы

Урачы дэрмата-венеролагі Валожыншчыны б'юць, як кажуць трывогу. Толькі ў мінулым месяцы ў раёне зарэгістравана 6 выпадкаў заразных венерычных захворванняў. Асабліва рэзкага ўсплёску дасягнуў сіфіліс, ці як называюць у народзе гэтую хваробу – пранцы. У васьмідзесятыя гады ў раёне ўвогуле не было ахвяр выпадковых сувязей пад зоркай "кахання" – Венерай. Цяпер на амбулаторным прыёме, здараецца, у дзень выяўляецца некалькі хворых на пранцы. Непаўналетнія, школьнікі найчасцей папаўняюць спіс сіфілітыкаў. Некаторыя з іх вядуць распусны, разбэшчаны лад жыцця ўжо з дзесяці гадоў. 80-90 % усіх заражэнняў адбываюцца ў нецвярозым стане.

***Ірына ЛЯШЧОНАК***

